**УВАГА! 15 снежня заканчваецца падпіска на "ГС" на першае паўгоддзе 1999 года.**




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 50 (79). Слонім. 10 — 16 снежня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны


# "КЕПСКА ЖЫВЕМ, АЛЕ ДОБРА СПЯВАЕМ"



*Спявае Аляксандра Ягаўдзік з Кастровіч*

**Сапраўдным святам песні стаў фестываль сельскай мастацкай самадзейнасці раёна, які прайшоў 5 снежня на сцэне раённага дома культуры. У ім прынялі ўдзел каля 30 самадзейных калектываў, а гэта дзесьці каля 200 чалавек.** *(Працяг на 8 стр.)*

**Нагадваем! Да канца падпіскі застаецца 5 ДЗЁН.**

КОШТ падпіскі на месяц — 35 тыс.руб. на квартал — 105 тыс.руб. на паўгода — 210 тыс.руб. наш падпісны індэкс 64042

## НАВІНЫ

### Новая купюра

**Национальный банк Республики Беларусь с 1 декабря ввел в обращение новую денежную купюру достоинством 500.000 рублей.**

На широком купонном поле расположен водяной знак – изображение Республиканского Дворца Культуры профсоюзов.

**Наталья ФУРСОВА**

### Будет "БТ-2"

**В ближайшее время в Беларуси будет изменена система телевещания. Об этом в интервью журналистам сообщил президент страны Александр Лукашенко.**

По словам руководителя государства, будет отменено вещание на территории Беларуси одного из российских телеканалов. Освободившееся эфирное время займет второй канал белорусского телевидения «БТ-2».

**БелаПАН**

### Мітынг у Гродне

**5 снежня ў Гродне адбыўся мітынг супраць эканамічнай палітыкі ўрада РБ.**

Нягледзячы на халоднае надвор'е, на Савецкай плошчы абласнога цэнтра сабралася не менш як тры тысячы чалавек. Акрамя прадстаўнікоў шэрагу Гарадзенскіх прадпрыемстваў у акцыі пратэсту прыняла ўдзел дэлегацыя рабочых з Мастоў і іншых райцэнтраў.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Падаражэў газ

**У адпаведнасці з загадам міністра эканомікі Беларусі, для насельніцтва ў сярэднім на 15 працэнтаў павышаны кошт паслугаў за карыстанне прыродным газам.**

Між іншым, многія слонімцы карыстаюцца звадкаваным газам. На сённяшні дзень у Слоніме такіх абанентаў 3739, а ў раёне – 8051. Кошт аднаго газавага балона з дастаўкай на дом складае 110 тысяч рублёў.

**Сяргей ЁРШ**

### Снижаемся

**За 11 месяцев нынешнего года максимальный размер пенсии в Беларуси (без учета надбавок) в пересчете по рыночному («черному») курсу наличного доллара снизился в 2,9 раза — с 40 до 14 долларов.**

Помесячная динамика выглядит следующим образом: декабрь 1997 года – 40 долларов, январь 1998 года – 37, февраль – 43, март и апрель – 36, май – 34, июнь – 33, июль – 36, август – 33, сентябрь – 24, октябрь – 16, ноябрь – 14 (при расчетах брался курс на 15-е число каждого месяца).

**БелаПАН**

## ЗДАРЭННІ

### Трагедыя ў Клепачах

**На мінулым тыдні ў вёсцы Клепачы суседзі знайшлі мёртвым у сваёй хаце 92-гадовага пенсіянера Р.**

– Аджыў сваё чалавек,– вырашылі сяляне.

Аднак праз дзень вёску страсянула жудасная вестка. Па заключэнню судова-медыцынскай экспертызы, старога задушылі. Міліцыя затрымала па падазрэнню ў забойстве 17-гадовага палявода калгаса "Прагрэс" К., які пад час сваркі і забіў пенсіянера.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Панажоўшчына на Мінскім тракце

**4 снежня ў раённую бальніцу з Мінскага тракта былі дастаўлены два чалавекі з нажавымі раненнямі.**

У 19 гадзін п'яны Д., убачыўшы дома сваю былую жонку "пад мухай", нанёс ёй удар нажом.

А ўжо апоўначы з мноствам нажавых раненняў хуткая дапамога прывезла 58-гадовага мужчыну. Па словах пацярпелага, яго моцна парэзала нажом жонка М.

### Паранілі ахоўніка

**У мінулую суботу нажом быў паранены ахоўнік дыска-бара "Оскар".**

На вачах у публікі адзін з наведвальнікаў бара нанёс ахоўніку сем нажавых удараў. Пацярпелы дастаўлены ў бальніцу, а злачынца з месца здарэння ўцёк. Пошукам яго займаецца міліцыя.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# ЭКЗАМЕН ВЫДЕРЖАЛИ С ЧЕСТЬЮ

**В 11-ой механизированной бригаде прошла итоговая проверка боевой и служебной подготовки за 1998 год. Инспектировало слонимских гвардейцев Министерство обороны. Личный состав бригады с честью выдержал экзамен и получил общую оценку "хорошо".**

Вот что сказал корреспонденту "ГС" заместитель командира бригады полковник Анатолий Кудерко:

– Инспекция в первую очередь проверяла уровень боевой готовности, а также знания по государственно-правовой подготовке, состояние вооружений, техники и частей тыла.

Лучшие результаты по всем дисциплинам показали: группа артиллерии, где командиром полковник Александр Пекарь, 2-ой мотострелковый батальон под командованием подполковника Валерия Гапоненко, батальон связи во главе с подполковником Виктором Кучерявенко, а также разведбатальон, которым командует майор Сергей Бурак. Хороших результатов во время проведения стрельб добился 3-ий танковый батальон под командованием майора Александра Дмитрука.

Особо следует отметить высокие организаторские способности командира 5-ого стрелкового батальона майора Виктора Николаева. Буквально накануне проверки весь личный состав этого подразделения был уволен в запас, и на смену ему пришли молодые воины. Проявив настоящий профессионализм, Виктор Николаев в короткий срок сумел обучить солдат военному искусству.

**Валентин ЧУРИЛО**

### Веласіпед зімой — ненадзейны транспарт

**На мінулым тыдні ў раёне здарыліся дзве аўтамабільныя аварыі, у выніку якіх пацярпелі веласіпедысты.**

На дарозе Баранавічы – Ваўкавыск каля вёскі Чамяры аўтафургон "Мерседэс" збіў 68-гадовага слонімца Ц., які з цяжкімі калецтвамі змешчаны ў бальніцу. Спрабуючы пазбегнуць наезду на веласіпедыста, шафёр затармазіў. Шматтонны фургон занесла на слізкай дарозе, і ён з'ехаў у кювет, дзе перакуліўся. На шчасце, вадзіцель грузавіка не пацярпеў, а вось груз – шкляны посуд, коштам шэсць тысяч даляраў, – быў поўнасцю разбіты.

А па дарозе Слонім – Масты вадзіцель "Аудзі-80" Ш. з Ваўкавыска не змог аб'ехаць п'янага веласіпедыста і збіў яго. 50-гадовы жыхар вёскі Байкі трапіў у бальніцу.

**Валянцін ЧУРЫЛА**



*Аварыя каля Чамяроў*



## ЗДАРЭННЕ

### Таямнічая смерць

**Раніцай 8 снежня на тэрыторыі МПМК-164 быў знойдзены труп маладога мужчыны.**

Асоба і прычыны смерці чалавека высвятляюцца.

**В. Ч.**

**ФЕЛЬЕТОН**

# Павукі ў басейне

Прафсаюзны сход у падводным царстве пачаўся са спазненнем на цэлую гадзіну: усе чакалі Вадзянога. Яшчэ на мінулым тыдні Няптун паслаў яго ў Дзятлава паглядзець, як працуе басейн, што размешчаны ў памяшканні лазні. Нарэшце Вадзяны пацяху ўсунуўся ў кантору і сціпла сеў у крэсла ля дзвярэй. Выгляд у яго быў такі, нібы нядаўна трапіў у малатарню: пад левым вокам спелай слівай прыляпіўся сіняк, з галавы абсыпаліся ўсе водарaслі.



— На табе што, чэрці гарох малацілі? Ці можа п'яны трапіў у міліцыю і на сутках сядзеў? Дзе ты цягаўся, паршывец? — Няптун так стукнуў трызубцам аб падлогу, што з беднай Русалкі пасыпалася луска.

— Я быў у Дзятлаве, як вы загадалі. Зайшоў у лазню, убачыў басейн і з радасці плюхнуўся ў яго. Так хацелася асвяжыцца, бо некалькі гадзін быў без вады. Вечарэла. У памяшканні стаяў прыцемак. Я і не заўважыў, што ў басейне няма вады. Грымнуўся проста на сухое дно. Твар пабіў, левую нагу вывіхнуў. У павуціну ўблытаўся, бо там, у басейне, жывуць павукі.

— У басейне павукі?! А чаму там дзятлаўскія дзеці не вучацца плаваць? Чаму дарослыя не купаюцца? Некалькі гадоў назад там аж звінела ад дзіцячых галасоў, — сказала Русалка.

— Што было, тое з вадой сплыло, якую з басейна выпусцілі. Кажу ж : там цяпер павукі.

— А як ты пакалечаны выбраўся адтуль? — дапытваўся Няптун. — Камунгасаўскія работнікі дапамаглі? Гэта ж камунгасу басейн належыць?

— Так, але выцягнулі мяне не яны, а гарадскія спартсмены. Там, у падвале лазні, ёсць спартыўная зала. Хлопцы займаюцца ў ёй атлетычнай гімнастыкай. Трэнажоры ўсякія стаяць, а яны яшчэ самі прывалаклі гіры, штангі і качаюць мускулы. Кажуць, для здароўя вельмі карысна.

— Гэта добра, — павесялеў Няптун. — Замест таго, каб чаркі ў барах ды забягалаўках падымаць, яны штангі падымаюць. Цудоўна!

— Разам з дарослымі і падлеткі сюды прыходзяць, і дзеці адчуваюць сябе там, нібы рыба ў вядрэ, — зноў падаў голас Вадзяны.

— Рады за іх. Але што датычыцца басейна, то так справа далей не пойдзе. Мы абмяркуем гэта пытанне на прафсаюзным сходзе і выпіску з пратакола пашлём у раённы спорткамітэт і кіраўніцтву камунгаса. Няхай дадуць людзям магчымасць займацца плаваннем. Асабліва для дзяцей гэта карысна. Басейн пабудавалі, дзяржаўныя грошы затрацілі, то трэба ж іх неяк апраўдаць. Няхай плату за гэта бяруць, як у іншых месцах. І ўсім будзе добра: і камунгасу, і гараджанам.

Няптун замоўк, пацерабіў сваю доўгую бараду, а потым прамовіў:

— Не, пасылаць выпіску не будзем. Я сам занясу. Так больш салідна.

— А калі гэта не дапаможа? — спытала Русалка.

— Тады вазьму басейн у арэнду і пасялю кракадзілаў, бо гэта ж недаравальна, каб у ім жылі павукі!

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

**ВЕСТКІ** *з Мастоўшчыны*

## СНІД у Мастах

Згодна паведамлення абласной статыстыкі, у Мастах выяўлены адзін чалавек, інфіцыраваны вірусам імунадэфіцыту.

## Саладзіце па картках

**У Мастах цукар і смятанкавае масла пачалі прадаваць па картках.**

На кожную сям'ю заведзены спецыяльныя спісы, па якіх прадаюць па аднаму кілаграму цукру і па 300 грамаў масла.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

**ВЕСТКІ** *з Дзятлаўшчыны*

## Кожны край мае тых, хто яго апявае

**У чытальнай зале Дзятлаўскай раённай бібліятэкі сабраны творы мясцовых аўтараў — членаў літаратурнага аб'яднання "Пралескі".**

Чытачы бібліятэкі могуць пазнаёміцца з вершамі ўрача санаторыя "Наваельня" Яўгена Матвеева, выхавальніцы дзіцячага садка №1 Алены Малько, настаўніка Георгія Шундрыка, пенсіянеркі Веры Хрышчановіч.

## На сем гадоў за краты

**Адзін з жыхароў Дзятлаўскага раёна асуджаны на сем гадоў пазбаўлення волі.**

Гэта пакаранне ён атрымаў за згвалтаванне непаўналетняй дзяўчынкі.

## У цытадэль славы

**Вучні Малашасткоўскай школы нядаўна наведалі Брэсцкую крэпасць.**

Гэта паездка — своеасаблівая ўзнагарода дзецям ад калгаса "Войневічы" за тое, што яны актыўна дапамагалі гаспадарцы ў палявых работах.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

**АМАЛЬ СЕНТЫМЕНТАЛЬНА**

# УЗРОСТ ВЕЧНАСЦІ

## Ультыматум мужу

У аўтобусе міжволі падслухаў размову двух пажылых жанчын, амаль бабулек. Яны гаварылі пра набалелае: пра дзяцей. З размовы зразумеў, што кожная з іх мела свайго шалапутнага сына.

Многа было сказана добрых і благіх слоў пра тое, што вось "гадавала, гадавала, а занемагла — і непатрэбнаю стала...". З той пары з памяці так і не выходзіць расказ старэйшай жанчыны пра дзве аднолькавыя жыццёвыя гісторыі.

Старэнькую занядужаўшую маці дарослы сын забірае з вёскі ў горад у сваю сям'ю. Пакуль маці магла трымаць гаспадарку, сын з нявесткай часта наведваліся ў госці, дапамагалі, і маці нічога для іх не шкадавала: ні свежаніны, ні бульбы, ні капусты — усяго, што мела. Ды не даў Бог памерці ў сваёй хаце. Хваробы і нямоглацсь прымусілі звярнуцца па дапамогу да роднага дзіцяці. І далей — амаль дэтэктыўны сюжэт.

Нявесткі не захацелі дзяліць сваіх мужоў з тымі, хто іх нарадзіў і выгадаваў, таксама, як і аддаваць сваю ўвагу яшчэ нядаўна любімай, па словах, свекрыві.

І вось іх ультыматум мужу: "Каб вечарам, калі я прыйду з працы, твая маці ўжо ўбралася адсюль...".

Па словах апавядальніцы, абое сыноў пагадзіліся, што, маўляў, добра, убярэцца... Тут трэба адзначыць, што ў абоіх гэтых мужоў жонкі былі начальніцамі, якія вялі свецкі (так напрошваецца сказаць "савецкі") лад жыцця. І, відаць, не дарэмна кажуць, што ўлада псуе чалавека... Але вернемся да матчыных гісторый.

## Гісторыя першая

Надыходзіць вечар. Старая жанчына чакае, што хутка павінен прыехаць з працы яе сын, а праз гадзіну — яго жонка. Яна чула іх раніцою размову і падрыхтавалася да ўсяго: дапалола на агародзе бульбу, прыбралася ў сваё лепшае адзенне, сабрала клуначак з самымі неабходнымі рэчамі...

Сын з'явіўся крыху раней звычайнага. Усхваляваны.

— Ну што, маці, будзем убірацца, — і настойліва папрасіў старую прайсці ў іх з жонкай спальню. На здзіўленне жанчыны, там ён адчыніў шафу і выклаў адтуль лепшыя жончыны сукенкі. Потым, падумаўшы, дастаў з ніжняй скрыні басаножкі, бо маці і жонка насілі аднолькавы памер абутку. Сказаў, каб да прыходу жонкі маці апранула лепшую з сукенак і абула гэтыя басаножкі. Сам жа выйшаў на кухню.

Маці зрабіла так, як загадаў сын.

Ляпнулі ўваходныя дзверы. Таропкія крокі і голас выдавалі нецярпенне нявесткі.

— Ну што, убралася твая маці? — пачулася пытанне.



IREX

— Убралася, яшчэ як убралася. Зараз сама ўбачыш...

Пасля гэтых слоў сын адчыніў дзверы ў спальню...

Але сапраўдны спалох ахапіў маладую жанчыну не ад выгляду свекрыві ў яе лепшым уборы. Пытанне: "Што гэта такое?" — абарвалася на паўслове, калі, павярнуўшыся, яна ўбачыла мужа з сякерай у руках, збялелага, але рашучага, як ніколі... І тады між імі апынулася маці...

Гэта яшчэ не ўся гісторыя. Але ў выніку — і нявестка з свекрывёй паразумеліся, і сын чалавекам застаўся.

У жанчыны, што слухала сваю сяброўку-апавядальніцу, у момант кульмінацыі на вачах выступілі слёзы. А мне падумалася, што, відаць, кожная з іх жадала б для сябе мацярынскай долі той гераіні.

## Гісторыя другая

Другі расказ таленавітай апавядальніцы ўразіў мяне сваім драматызмам.

Прыйшоўшы вечарам з працы, жонка не застала дома мужа і свекрыві. Паколькі гараж быў пусты, то жанчына зразумела, што гаспадар усё ж паддаўся на яе ўгаворы і на машыне павёз маці ў інтэрнат для прыстарэлых.

Але ўжо настала поўнач, а яго ўсё не было. Калі пасля некалькіх спробаў дазваніцца па міжгорадзе з "багадзельні" ёй паведамілі, што ніхто пад такім прозвішчам да іх сёння не паступаў, жанчына пачала хвалявацца...

Муж прыехаў раніцай. На добрым падпітку. Гэта тым больш здзіўляла, што раней ён за рулём сабе ніколі такога не дазваляў. Не чакаючы ад жонкі пытанняў, сказаў, што ў інтэрнат маці аддаць не змог, а адвёз пад Мінск, да стрыечнай сястры. Там і выпілі за сустрэчу і за здароўе маці. Жонка супакоілася і нават абрадавалася, што ўсё так атрымалася. Ды жанчыну лёгка падмануць тады, калі яна сама хоча быць падманутай.

Ні ў інтэрнат, ні тым больш да далёкай стрыечнай сястры, якую ўжо не бачыў год пятнаццаць, сваю маці сын не адвозіў. Ці то гонар, ці то сумленне не дазволілі так зрабіць. Але і не паслухаць жонку ён таксама не мог.

Праўдай аказалася тое, што сын сапраўды адвёз маці пад Мінск. Адвёз і пакінуў у лесе. Пакінуў без дакументаў і даволі лёгка апранутай, хоць была ўжо позняя восень...

На шчасце ці на бяду маці, але нейкі мужчынапаляўнічы, прыкладна аднагодак нелюдзя-сына, праз некалькі гадзін знайшоў на абочыне лясной дарогі адзінокую старую і ...забраў да сябе жыць і прыглядаць за шыкоўным катэджам, бо яго маладая жонка загінула ў аўтамабільнай аварыі. Маці сваёй ён не ведаў зусім — "новы беларус" гадаваўся ў дзіцячым доме.

Пражыла жанчына ў доме свайго выратавальніка пяць гадоў. І стала яму, як маці. І нават на другім сваім вяселлі ўдачлівы камерсант здзівіў сяброў навіной, што адшукаў сваю маці. Не змяніліся адносіны да яе і пасля вяселля, і пасля нараджэння дзіцяці. Новая "нявестка" любіла "маці" свайго мужа, а трохгадовы хлопчык стаў для бабулі сапраўдным унукам. Родных унукаў ад свайго сына яна не ведала.

Але з цягам часу адчула старая, што пачала слабець. І так ёй захацелася пабачыць перад смерцю свайго роднага сына, што расказала сыну названаму сваю сапраўдную гісторыю і папрасіла звазіць яе дамоў. Той выслухаў і моўчкі пагадзіўся...

Далей я паспеў толькі пачуць, як на падворку дома роднага сына маці ўпала на калені перад сваім колішнім выратавальнікам, калі той хацеў забіць "самага вялікага на свеце здрадніка".

Гэта былі апошнія словы, што сказала жанчына-апавядальніца перад тым, як пакінула аўтобус.

Я ехаў дамоў. Дома мяне заўсёды чакае мая састарэлая маці. У мяне няма ні свайго дома, апрача бацькоўскага, ні жонкі. І запісаўшы зараз гэту гісторыю, я падумаў: а можа і добра, што няма?

**Мікола КАНАНОВІЧ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. (017)210-87-17 E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 9 снежня 1998г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.000 экз.
Заказ №3383

